УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4 Беи)-5
Б99

**Бялячыц, Р.**

Б99 Святлом і ценем : вершы / Рычард Бялячыц. — Мінск : Кнігазбор, 2009. — 216 с.
ISBN 978-985-6930-13-6.

Новая кніга паэзіі Рычарда Бялячыца — лірычны роздум аб жыцці, яго нечаканых праявах. У вершах жыве памяць аб далёкім мінулым роднага краю, светлая надзея на спеўную сустрэчу з заўтрашнім днём.

Невялікая паэма пераносіць нас на лясны бераг Котры, дзе ў гады вайны перастала існаваць вёска Агародзішча.

Раней пабачылі свет зборнікі вершаў паэта «Сакавіцкае крыло», «Прасветлінка», «Міг выратавання», «Вочы малітвы».

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84 (4 Беи)-5**

**ISBN 978-985-6930-13-6**





# Са мной мой дзень

## СУСТРЭЧА

Утульна вулачкі вадзілі
І зберагалі надалей
Малюнкі драмаў і ідылій.
Навокал холад быў.
Але
Праз хмары сонца праглядала,
Яшчэ не дбала ні аб чым.
Маўчалі жаўранкі нямала,
Пакуль крычалі крумкачы.
На развітанне Багдановіч
Казаў пра znічкі і пра час.
Жыла Бічэль Данута побач.
Паштарка не пазнала нас.
Выратавальна Нёман клікнуў
Услед
З-пад вокладкі ільда.
І светлы голас
Першай скрыпкі
Высакародна спавядаў.

## У БЕРШТАХ

Што я тут быў,
Мне моцна вер ты:
Сярод стагоддзяў, спелых ніў
На хвалях спалі думна Берsuccessfully,
А я князёўны мёд хваліў.

Усход вільготны плыў па пахі,
На хвалі сцелючы цяпло.
Тут бурштыновым ветрам пахла,
Усё Радзімаю цвіло.





Зноў скептык, правільны такі,
Глядзіць да крыўды строга.
А нада мною жаўрукі,
Пасланыя мне Богам.

У вочы шчыра зазірну
І Перуну прад раем,
Пакуль анёл
Маю струну
Ўва мне перабірае.

## ТАМ

Непаспешліваю раніцай
Прыйдзе думка напрасткі.
Там нічога не змяняецца
І ў акне жывуць бацькі.

Са шчаслівай Веранікаю
Блін пячэ сівы Адам.
І малая, і вялікая
Там радзіма,
Воля там.

Злая-добрая мяцеліца.
Дым да зораў нездарма.
Там усё па сонцу дзеецца,
Толькі нас з табой няма.



## СТАРАДВОРСКАЯ НОЧ

Старадворская ноч як паненка.
Даглядаем агонь, бы дзіця, —
Спагадаў бы ён думкам хацця.
Старадворская ноч як паненка.

Старадворскае неба — палацы.
Не ступіць
І не дыхаць на крыж.
Ты вачыма паэта глядзіш:
Старадворскае неба — палацы.

Старадворскі світанак — расстанне.
Будзе помніцца ўсё да канца,
Як ускрыкнула ў неба дзіця.
Старадворскі світанак — расстанне.

## КРЫНІЧНАЯ СТОМА

Над краем суцішак вячэрні
І поўдзень раскошна-зялёны.
Па статусе і прызначэнні —
Таемнасць памежнае зоны.

Забытыя стрэлы і тосты.
Пралегла,
Маўчыць,
Не гамоніць
Памежжа на Княстве Літоўскім,
На Вітаўтавым Прынямонні.

Уецца то скрытнаю рэчкай,
То сцежкай ля самага жыта,
То жылкай па мне,
І нарэшце —
Па цэлай Літве старажытнай.

Хацелася ветрам імчацца
Над полем,
Над ціхай каплічкай,
Бліз-поруч самоты і шчасця
Дадому,
Да стомы крынічнай.



## ПАХ МЯДОВЫ

Птушка, па-твойму,
Збіраецца зараз
Спаць
І пра тое спявае наўзбоч.
У задуменні самотная хмара.
Просіцца кот пад дзвярыма на ноч.

Пах жа мядовы бясследна не згіне,
Перачакаўшы зімоўе і нас.
Заўтра ў Наваградак едзеш княгіняй,
Хмурым ля веснічак будзе твой князь.

Позірк пакуль
Як крыштальныя воды.
Сад пры стале пасмакуем,
Але
Лета канчаецца сумна заўсёды
І невядома,
Рабіць што далей.

## РАДЗІМА

Прызабыты, неспаткановы,
Са сняжком апошніх зім.
Толькі сняцца мне Варняны,
Пыл дарог…
І я адзін.

Далячынь у свет вадзіла.
А маленькую, сваю,
Так знаёмую радзіму
Твар у твар не пазнаю.

Мне б са жменьку маладосці,
Затуманенай няхай.
Збоку сяду ціхім госцем,
Толькі ты не папракай.

Азіраюся з нагоды
Расставання і віна.
І, аслепленая ўсходам,
Узіраецца яна.



## ЧЭРНЯ

Мы з табой яе прапусцім
Да нязведаных аблок.
Зранку ў Нёман чуйным вусцем
Заплывае паплавок.

У спакоі надвячэрнім
І як з сонцам ні прыйду —
Нёман вечны,
Покуль Чэрня
П’е крынічную ваду.

## СВІТАЛЬНАЕ ШВО

На зары сініца
Слепіць вочы —
Дню рубашку шые пры стале.
Мамінай машынкай застракоча,
Шво паправіць
І звініць далей.

Так знаёма-стомлена
І ўвішна.
Але ўшыркі покуль позірк рос,
Паў на шыбы,
Песню засланіўшы,
Красавіцкі стоены мароз.



## У НЯСВІЖЫ

Шурпатым языком
Званіцы ліжа
Асенні дождж,
Нібы шчаку маю.
На вуліцах забытага Нясвіжа
Нікога цэлы век не пазнаю.

Гадоў маіх нацягнутыя струны.
Іх божая рука не праміне.
Сюды вярнуцца чыстым, свежым, юным
Аднойчы давядзецца мне.

Ты тут праз парк
Сцяжынкаю ад Бога
Ішла,
Пакуль зацерпелася ўсё:
Паненка ў белым,
Дама ў чорным строга,
Бездапаможны
Пэндзаль Пікасо.

## ПОКУЛЬ СВЕТ ЛЮБЛЮ

Апусцелі шумныя трамваі.
Здані хмараў
І нашэсце сцен.
Аціхаю…
Значыць, выспяваю
Дзеля навізны і перамен.
А пасля дажджу
Па-над крыніцай
Бліскавіца,
Покуль свет люблю,
Будзе па ствале да неба віцца,
Каб нанова цалаваць зямлю.



## ГУСІНЫ ЎРОК

Спачатку чытанка
Гусіных радкоў,
Як неспадзяванка
Ізноў і наноў.
А потым лічэнне
І музыка крыл.
На карце асенняй
Балканы і Крым.
У небе не цесна,
Марудзім знарок.
Гусіная песня —
Апошні званок.

## БЕРАСЦЕЙСКІМ ДНЁМ

Як вейкі,
Густа абступілі
Ставок вачысты рыбакі.
І дакрануцца небасхілу
Зальвянцы
З-пад тваёй рукі.

Завесіўшыся свежым ценем,
У поўдзень ландыш зацвіце.
Зубры пафоткацца хацелі,
І кожны з імі ў кадр хацеў.

На вуліцу Рыгора Шырмы
Пружанскую
Прыйшло цяпло.
Быў час шыкоўны, ціхі, мірны,
І толькі згоды не было.

Ты не смяяўся і не плакаў,
Спазнаўшы рай упершыню.
А сонейка
Дарожным знакам
Спыніцца прадракала дню.



## РАМАН І ОВА

Былі тут возера і вёска.
І тое, і тое — Раманова.
Засталіся вёска і легенда.

Ляжала тут возера
Срэбнай падковай,
Каб зоркі купацца
Каціліся з горкі.
Апошнія словы
Рамана і Овы
Каціліся знічкай
І доўга, і горка.

Намокла каса,
І грабеньчыкам лоўка
Яе не расчэшаш,
Прысеўшы пад ясень.
Рука маладая
Прыгожай літоўкі
Ў далонях хлапечых
Навек засталася.

Дзядулю апошняму
З кручы не збочыць,
З вачэй тумаюў
Не павыцерці наскіх.

Вада берагоў
Адраклася аднойчы,
І сплыў вадзянік
Не то ў свет,
Не то ў казку.



## ПРЫСУД

Былыя ўспаміны памножым
На хмель маладога віна.
З дарогі пабачым Валожын,
Дзе ты
І дзе ў слёзах яна.

Мкне памяці голас пявучы
Здалёк і з асіплых прысад.
Аднак ты паўсвету навучыш,
Як жыць
І як вершы пісаць.

Мы двое,
Вы двое,
Па двое
Не вып'ем ніколі віна.
Закрэсліць рашуча былое
Прад ночаю Беразіна.

## У ЗАСЛАЎІ

Быў час высокай асалоды.
Але здавён пад небам, тут,
Крупіца радасці заўсёды
Кацілася па беразе пакут.

А праўда жыць не перастане,
Як, патаптаўшы васількі,
Чужынцы прагнулі кахання
Прастораў полацкіх
Дачкі.

Плывуць аблокі князя Вячкі,
І кожны памятны грудок
Пакуль ратуе
Днём гарачым
Стагоддзяў крэўны халадок.



## УНІВЕРСІТЭЦКІМ СЯБРАМ

Сонца плошчы залівае гладка,
Дрэвы кучаравіць маладосць.
Універсітэцкія парадкі
Сесіяю скончацца вось-вось.

Мне б сустрэць з блакітнымі вачыма
Радасць незнаёмую сваю.
На прыступках сходжаных айчынных
З вамі, задуменнымі, стаю.

Зачытаюць даўні ваш падручнік
Да зары ў парыве маладым,
Покуль нам нязмушана і зручна
Думаць пра наступныя гады.

## ЗНОЎ ПРА ЧЫРВОНЫ ХОРАМ

Колькі ні еду — зачынены дзверы.
І цішыні надакучлівы звон.
Замест чырвонага хорама — шэры.
Гэтак змяніўся.
А можа, не ён?

Штосьці лагодзіць, хвалюе і гіне,
Каб уваскрэсла ў вачах сенажаць.
Быццам пад аркай
Сумуе княгіня.
Быццам пад вокнамі мне начаваць.



## ШЧУЧЫНУ

З дажджом грыбным
Сыходзяць юбілеі
На гарады,
Калі ім весці рэй,
Калі на звон
І мур адмаладзее
І вуліца адкрыецца шырэй.

Калі Еўропа вечная памкнецца
Спазнаць на міг,
Як велічна ўваскрэс
У светлых вокнах Друцкіх і Лябецкіх
Агінскага шчымлівы паланэз.

Не ведае маны ніводзін клавіш.
І каб з вачыма яснымі ісці,
Тэрэза-маці, нам руку паклаўшы
На голаў,
Апякуе па жыцці.

Дзівіцца месяцу
Чарга належыць,
Як птушка на сваёй святой струне
З яшчэ не надта высахлае вежы
Мелодыю гнязда
Ў блакіт памкне.

## НАШЭПТАМ

Навошта шаптацца, здавалася мне.
А сёння ў дарогу збяруся.
Патэлефаную, што ў Беразіне
Купаюцца дзікія гусі,
Што ў полі і ў лесе
На першых снягах
Аповесць напісана кімсьці.
І што не жадалі
Застацца ніяк
Апошнім
Ні слова,
Ні лісце.



## СКАРБЯНКА

Што ёй пагляд нечакана хвалебны,
Толькі б струменіў парадак стары:
Гронка світання —
З паўднёвага неба,
Свежасць павеву —
З-за вернай гары.

Тут, у парэнчах, стаілася памяць,
Пахне легендай сівой сенажаць.
Дзеці пра скарб таямнічы гадаюць,
Сівагаловыя мудра маўчаць.

Не пажадалася волі спрадвечнай.
Пострыгам лес
І лячыў, і караў.
Хоць на хвіліну
Зрабілася Чэрняй*,
Каб памаліцца паспець за свой край.

---

* Рака Скарбянка, заплыўшы ў лес перад упадзеннем у Котру, пачынае звацца Чэрняй.

## РАНІШНІ ДАВЕР

Мне пра радзіму гавары
І мрой пра ясныя каралі.
Няма прычын,
Каб на зары
Мы цішыні не даяралі.

Гняздо ў пару такую віць
І затуляць тугія плечы.
Ці, як раўнівец, смешным быць,
Як снег у маі — недарэчным.

Бо, красамоўства апрача,
Кахалі, верылі калісьці.
Там душы верныя маўчаць
У Бога
Ў воблачку-калысцы.



## АСЕННІЯ АТРАКЦЫЁНЫ

У Шчучыне атракцыёны.
Плачу за дваіх,
І як след
Чырвоны, блакітны, зялёны
З нябёсаў вяртаецца свет.

У веку наступнага госцем
Смяяцца і плакацца рад.
На снежань, далей пераносьце
Агляд, рэферат, зарапад.

Быў Спас крыху церпкі і горкі,
Захаладнаваты і Ян,
Як амерыканскія горкі
Спусціліся на акіян.

На Нёман, рашучасці поўны,
Ляцелі, кружылі лісты.
Асеннія атракцыёны.
Мне два, калі ласка, квіты.



Зараз ноч за лес бліжэйшы пойдзе,
А пакуль утульна пад яе крылом.
Побач
Неба новага стагоддзя
Светла плача
Над маім акном.

Родныя прыстанкі ў вечным часе
Сустракаюць нас, азяблых, гарачэй.
Томас Ман
Нарэшце дачакаўся
Раніцы
І здзіўленых вачэй.



## ВЫРАЙ

Тут ранак адзін,
І супынак адзін,
І ластаўкі хмаркай адзінай
Паспеюць на ноч
З экзатычных краін
На класную нашу гадзіну.

Каб верылі вам
Янка Маўр і Жорж Санд,
Дарогі вясна перамыла.
А покуль напішам апошні дыктант —
І першы зусім без памылак.

Я ж кожнаму знаку
Па-добраму рад,
Пакуль паміж зор нетаропка
Пад восень
На поўдзень
Вясною назад
Плыве над радзімай
Шматкроп'е.

## ВАРНЯНЫ

Браўся за пяро часінай весняй
І не спаў у шэрую пару.
Не даецца ў рукі тая песня,
Нібы сонца,
Пазбягае рук.

Прамінуў той грэх,
Не дакрануўся,
І сумуюць вусны неўпапад.
І, здаецца, адлятаюць гусі,
Не вяртаючыся больш назад.

Хоць на шыбе ліст кляновы клейкі
Засланяе далягляды дзён,
Белы вечар
Стрыжанай алейкі
Ля сівых муроў
Яшчэ відзён.



## ПАРАЗУМЕННЕ

Дзесь акіянам узняты
З пахам антычнай жарствы,
Вецер падсоўвае хаты
Ў бок старажытнай Літвы.

Мае сказаць малайчына
І пра сябе,
І людзей.
То ён акно прыадчыніць,
То праз парог увайдзе.

Белых аблок нацярусіць,
Стане ясней уваччу.
З ветрам, што над Беларуссю,
Паразумецца хачу.

Па-над палямі чужымі
Не беражэ галавы.
Трызніць няскораным імем
Тут, на фарпосце Літвы.

## У СТАРЫМ ДВАРЫ

Скляваць з-пад мяцеліцы што б
Спяшаецца вырай птушыны,
Зялёныя кроны хвароб
У кронах гадоў і асінаў.

Чаканне ў вячэрняй смузе
Заплюшчвае вечныя вочы.
І любыя мне тут усе,
Хто сонца пабачыў аднойчы.

З гадамі аблокі тужэй,
А зораў не менее, безліч.
Гасцінец людскі беражэ
Спачын Алаізы Пашкевіч.



## ТРЫ ДНІ

Прымай, Гародня, падарунак
На тры бязвоблачныя дні.
Вясны падсінены карунак
І мы, шчаслівыя, адны.

Тут поруч з Нёманам прайдуся
Да цішыні касцельнай.
З год
Ляцяць, ляцяць здалёку гусі
На тонкі палахлівы лёд.

Круты вятрыска даўгаполы
Зноў пераслед пускае ўслед.
Нясе музею Юрка Голуб
Апошні быкаўскі партрэт.

Тры дні, здавалася, ад роду
Вачам, і словам, і вясне.
І тры імгненні
Ў княстве родным,
Што дачакаліся мяне.

## СВЕРБ ДАРОГ

Забыўшыся, як лес расце,
Мяне там, пэўна, не чакаюць.
Туды цяпер усё часцей
Вядзе,
Як маці ў споведзь,
Памяць.

Пайду па вершы і грыбы
Пад дождж дзяцінства і вальноты,
Каб зла не бачыць
І абы
Мой край не быў з рання маркотны.

У светлай высвенчанай хаце,
Як сверб дарог
Прыходзіць з маем,
Наперад вы не папракайце,
Што менш хвалююся і дбаю.





Прастор неабсяжны, стазвонны.
Бы на трапяткое траве,
Ясенін у тлумным вагоне
Яшчэ пацалункам жыве.

І раніцы ўжо не спыніцца,
Расінкай зачаўшыся зноў.
І хочацца імператрыцы
Пяшчоты, увагі і слоў.

Разанскае лета сагрэта.
Любіць і смяяцца ўначы
Спяшаюцца кінасюжэты,
Нібыта жыццё берагчы,

Нібыта пазведаць Купалы
Сляды, што схавалі снягі.
Вялікая, мала ёй, мала
Паэзіі, славы, магіл…

## АБ’ЕКТЫЎНЫ ВЕРШ

Дзе вякуюць бярозы і сосны,
Дзе звінела, ляцела, цвіло,
Стала жыць і любіць невыносна
Ля развалінаў школы былой.

Так было.
І не раз.
Адмыслова.
Прад табой ці прад Богам грашу.
Пакідаючы храмы без слова,
Сцены рушылі,
Потым — душу.

Аблапошана крукам каліна.
Засталося дарогі на чвэрць.
А ты сілішся
Жыць аб’ектыўна,
Быццам супраць вятругі ляцець.



## У ПРАДЧУВАННІ БРЭСТА

Там, дзе дзікі ў кірунку строгім
Свае сцяжыны прагна месяць
І дзе зубры мяняюць рогі
На залаты — не менш — паўмесяц.

Там на зялёным свежым моры
Аблокі любяць веславацца.
І Дзед Мароз Снягурцы дорыць
Па новай версіі палацы.

І дзе ад роднага парога
Пры скалананні дзён уранні
Ад слова Буг
Пайшло да Бога
Галосных літар чаргаванне.

## НАЗВЫ

На вуснах загарчыць Гурнофель —
Саксонскі лад табе якраз.
Непрадказальны дзікі профіль,
Нямы затоены анфас.

Галавічполе.
Поўдзень хмарны
Далёкіх вусцішных гадоў.
Там ненажэрныя татары
Скакалі полем
Без галоў.



## БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

Па дарозе ламачча і пні
На марозе траскучым.
Не пабачыўшы нават,
Прысніў
Белавежскую пушчу.

На тых пнях — безвыходнасць кругоў,
І пакутаваць мушу:
Выкрадаюць у сына майго
Белавежскую пушчу.



Мы супыніліся ля Гродна,
Каб зноў прывеціць маладосць.
У храме ціха і вільготна,
І хтосьці побач з намі ёсць.

Дарог няма назад, у сцюжы,
Ад гэтых стомленых вачэй.
Каб хоць на міг пачуцца дужым,
Павінен хтосьці быць яшчэ.

Умець бы мудра памаліцца,
Як маці ў зацемках штодня.
Маўчаць нябёсы і званіцы.
Звініць з-пад траваў цішыня.



## БУСЕЛ

Жылі пры хлебе і пры часе,
Быў маладога дня канец,
Як бусел нас не дачакаўся,
Сышоў далей, за Мухавец.

Пайшоў у ноч забыты бусел
Ад воч людскіх па полі, прэч.
Пайшоў і болей не вярнуўся
На скрыжаванне нашых стрэч.

Дарогі тыя, пачакаўшы,
Забыць яму,
Як і нам двум.
Там дзьмухавец гардыні нашай
І буслаў
Васільковы сум.

## У АСТРЫНЕ

У ціхай Астрыне паэты.
Ні звад,
Ні ростані паблізу.
І толькі ведалі пра гэта
Дзіцячы шэпт
І Алаіза.

Тут, у двары, пад вербай ніцай
Сышліся мроі, словы, тайны.
Тут дакрануўся завушніцаў
Ягоны голас незвычайны.

Ажно паэтка прасвятлела
З неразгаданага партрэта,
Калі ва ўсім сцюдзёна-белым
Запаміналася паэтам.



# Босы бераг



Пакарае час застрога —
Дасць цяпла тваіх вачэй.
Мы бліжэй, бліжэй да Бога
І да вечнасці бліжэй.

Зазімую, заначую
З птушкай шэраю няўзнак.
Каб не ведала,
Што чую,
Не спявала б, пэўна, так.

## БОСЫ БЕРАГ

Там хваляў і пены па локаць,
Дзе Чэрня гадуе траву
І думкі няўступныя топіць,
Пакуль на прыволлі жыву.

Спужаў задуменныя косы,
Каб потым,
Як зноў надыду,
Адважыўся бераг мой босы
Ступіць у святую ваду.



## СМАГА ПОЛЯ

Вясновая смага асела
На вейкі, на шыбы, галлё.
Забылася вялае цела
На свет,
Прызначэнне сваё.

Электрамагнітнае поле
На поле маё, на зямлю
Сыходзіць з трывогай і болем.
Хмурынкі
На хлеб прыкармлю.

Бязвольная смягне паляна.
А дзесьці — не ў лад да ўсяго ж —
На полі футбольным Мілана
Грыбны апускаецца дождж.

## СУРОВЫ ПТАХ

Усё было нібы не так,
І азарэння дзеля
Прынёс з нябёс суровы птах
Трацейскую нядзелю.

Святла і вольніцы зашмат
На сцішаныя грудзі.
Забудзе ноты музыкант,
Мы словы ўсе забудзем.

Пра каляндар забудуць дні,
І чалавек — пра памяць,
Пакуль наўпросткі карані
Дарогу ўспамінаюць.



## КЛАВІШ

Асенні клёнік свеціць,
Не гасне змалада.
Няўдзячныя,
Як вецер,
Мы лёсу і гадам.
Усё маленькім стала
І вырасла,
Як боль.
Мы пабылі так мала
Шчаслівымі з табой.

Не ўсё, што выпускаеш,
Вяртаецца назад.
Напаўзабыты клавіш
Яшчэ бяскрыўдна рад.

## СУБОТНІ БЛЯСК

Супакоіцца суботай,
Каб пад шапатлівы дождж
У ахвоту
Адзіноту
Піць
За бляклы сонца грош.

Дзе адно акно ў палацы
І бясконцая зіма,
І чакаць, і спадзявацца,
І маркоціцца дарма.

Хоць пакуль што невядома,
Час жывы
Ці заскаруз,
Ты ў дарозе, а ці дома,
Ты ніхто
Ці беларус.

Засвяціць суботні вечар
Бляскам зорак і вачэй.
Ты падумаеш аб вечным —
І сустрэцца нам лягчэй.





Пад крылом даўжэзнай хмары,
За якую дзень забег,
Хутаранцы гаспадарацъ —
Вараць бульбу,
Чуюць снег.

Стала восень папялішчам,
След у полі чорным знік.
То палохае,
То кліча
Журавоў працяглы крык.

А затым
Дажджы пазначаць
Аж за Нёман свой абход
І суцішацца, няйначай,
Сыдуць рыбаю пад лёд.

У трывожныя гадзіны
І ў спакой гадоў-вякоў
Поруч сонца
Над Радзімай —
Стрэлкі чуйных жураўоў.

## НАЧНЫ ЭЦЮД

Яшчэ шпакоўні спяць,
І дрэмлюць вілы,
І поўныя званы той цішыні,
Дзе надвячоркам
Птушкі заблудзілі
У прымхлівыя ранішнія сны.

На досвітку ж
Павольна дагарае,
Пакуль туман сцяліўся над ракой,
Блакітная яліна небакраю,
Запаленая божаю рукой.



## МОДНЫ ПАСТУЛАТ

Выходзячы ў сумніве з дому,
Зірні на зоркавае неба.
Яно падкажа шлях, вядома,
Куды ісці па радасць трэба.

Прыйшоўшы з кветкамі ў руцэ,
З пяром
Ці з розгаю і кіем,
Каб ведаць, што рабіць яшчэ,
У вочы зазірні людскія.

## СШЫТАК

Пачырванелы сшытак тонкі
З вачэй і з рук аднойчы знік.
Камусьці — свежыя старонкі,
Камусьці — шэры чарнавік.

Ізноў сіноптыкі бязгрэшна
Пашлюць дажджы
Ў прыбраны двор,
А крона восеньскай чарэшні
Цяпер паўнюсенькая зор,

Калі ёсць слова на прыкмеце,
Якога песні не стае.
І дажываюць у пакеце
З-пад сонца
Бархатцы твае.



## ЖЫВЫЯ ВУСНЫ

Радзімы мёд,
Палын Айчыны
Жывыя вусны
Сніць павінны.

Калі і дзе
Ў паглядзе сінім
Яшчэ на міг
Сябе пакінем?

І добра, што
Пярун не можа
З-пад Нёмна знішчыць
Яго ложа.



Так з людзьмі адыходзіць бяда
За лясы, за аблокі і промні.
Невядома мне, чым нагадаць,
Што пра рукі руплівыя помню.

Прытуліўшыся скроняй да шкла
Задарожаных сініх нябёсаў,
Адпачні, покуль сцюжа мяла,
Покуль лівень надломіцца косы.

Хоць у думках цяпла і дабра
Прынясу,
Як букецік вясновы.
Нам пара,
У дарогу пара.
Можа, там пашанцуе нанова.





Крыху забелена зямля
Сняжком,
Што наляцеў здаля.
Пах малака,
Мукі мароз,
Нібы зацірка ў доўгі пост.
Яшчэ не пакідаеш след,
Не затуляеш твар, але
Часцей штодзень маўчыш сама,
Ці ў словах сцюжа і зіма.



Яшчэ з табою падабрэем,
Памаладзеўшы зранку зноў,
Каб верным ямбам ці харэем
Вясне аддзячыць за любоў.

Яшчэ закружыць лёгкі сон нас
На снезе ўтульнае зімы.
Яшчэ нальём у чаркі сонца,
Сусвет прыгубім смачна мы.

Адно цяпер па-на прыволлі
Вятрыска інеем прарос.
Адно цяпер не будзем болей
Не заўважаць прыходу слёз.





Змагацца за волю
Спрадвечную мушу
На схіле высокага яснага дня:
Мяне прышчапіць,
Як зялёную грушу,
Хацелася б вам
Да засохлага пня.
Замоўкнуць стамлёна
Над краем званіцы.
Ды звон ува мне.
Не суцішыцца ён.
Не ўмеючы,
Буду карэнням маліцца
За неба высокае
Велічных крон.



Заменены сталлю фігурнай паркан,
І лес падпірае нябёсы зубчаты.
Усё па прагнозе — і дождж, і туман,
І нават жыцця пачатак.

І толькі не скажа ніхто,
Як прыйду,
Нібыта за што пакарае,
Калі пачынаецца
Стомленых душ
Бяссмерце
Над родным краем.





Крокі дрэваў,
Стоена начных,
Лісцямі-слядамі
Застануцца
Раніцай
На сцежках,
На плячы,
На світальнай
Сакраментнай думцы.



Да цяпла шчакой прыпаў
Дзень.
Змяркаецца памалу.
З-пад нябеснага снапа
Мне зязюля кукавала.

І смяялася дзяўчо
З недаверу і сумненняў.
І кружыўся над плячом
Ліст у роздуме асеннім.

Выбачайце, што не сплю
Ноч і раніцу, бывае:
Ледзь даслухаеш зямлю —
Неба сказ распачынае.



## КРАЙ

Прад дарогаю і перад сном
Вочы моляцца тайна на промні.
Ад слядоў светла цягне жыццём,
Гэта ведае лес векапомны.

Край загубленых дзён і начэй…
І пад стомлены буславы клёкат,
Каб любіць цябе болей яшчэ,
Я паеду надоўга далёка.

Толькі кніжку з сабою вазьму
Ды на мове,
Што бог мяне клікаў,
Каб маглося і
Сэрцу майму
Павітацца са светам вялікім.



І нават сярод сцюжных зім
Цвіло.
Цяпер тут — стома.
Бярвенні, чорныя зусім,
Былі калісьці домам.

Дрыжаць на холадзе лісты,
Раней жа гімн складалі.
Зачараваны снег густы
Стаў ручаінкай далей.

Калі святкуюць карані,
Відаць, чуваць па голлі.
Была ты сонцам усе дні,
Я ж зайчыкам быў вольным.



## ПАМЯЦЬ АБ СНЕЗЕ

Усе снягі сплывуць бязвінна
Ў свой час,
Свой дзень.
Але тады
Кружыў той дзень,
Які павінна
Сагнаць яшчэ да Каляды.

Ішоў, як кот галодны ў дзверы,
Да рук,
Каб выжыць у цяпле,
Да ног,
Нібыта моцна верыў,
Што зберажэцца надалей.

А зімка-мачаха карала
Яго, што неслух з дому збег.
І на людскіх усіх каналах
Чамусьці помнілі пра снег.



І таўкуцца камары
На двары без толку.
Як умееш, то збяры
Рой сабе.
І толькі.
Села сонца
Там, дзе конь
Заначуе шпаркі.
Як умееш — засупонь
Шыю гнедай хмаркі.



## ЛЯ ВАЛЬЕРАЎ

Прывольна, велічна сасне,
Гняздуе ў кронах мой спадзеў.
Ды тут ніхто не верыў мне
І вочы ў вочы не глядзеў.

Іх дар — на вольнае назе
Страсаць з нябёсаў маладзік…
То хоць зрабілі б па чарзе
Ім да людзей хадзіць.

## НОНСЭНС

Яшчэ навокал рэй нябесны,
Ад зорак прывідныя цені.
Апошні «нуры» ад прынцэсы
На свята раніцы асенняй.

Кагось сабачы брэх пакліча,
І паплавок замрэ рыбачы.
І юны, новы паляўнічы
Расплюшчыць вочы,
Свет убачыць…



## СТУКАЧЫ

Калі не спіцца і не сніцца,
І студзіць росная трава,
Не чутна божай калясніцы,
Пара глядзець,
Пара ўставаць.

Паганкай ціхай ядавітай,
Глыбокай ямай уначы,
Чакаючы, клыбнеш калі ты,
Жывуць дагэтуль стукачы.

Па запаветным і балючым
Чуваць нястомны гнюсны стук.
За дротам чуецца калючым
І ў глыбіні сівых навук.

Як саўладаць са Шляхам Млечным,
Ніхто не ведае, бадай,
Калі пастукаюць па вечку
На развітанне.
Бог не дай!



Як наступала зацішша
І як жаўцела трава ўся,
Не папракаючы іншых,
Сцежкамі я лекаваўся.

Там нечаканае згледзіш,
Думкай ці словам не зганіш:
О, недасяжная лэдзі,
Непараўнальная пані!

Пад напамін шматгалосы
Выйдзе насустрач аднекуль
Нават спадарыня лёсу,
Лёсу чужога навекі.

Зноўку кастры пазапаляць,
Пэўна, на лад і на шчасце.
Вылечыць памяць —
Не палец
Гойнай травою прыкласці.



## КРОТ

Чуе ён жыццё здаля.
Дрэмле, днюе пад зямлёю.
Асцярожны,
Як зямля.
Зазямлёны ўволю ёю.

Гром дарог не перабег,
Не спаліла скуры сонца.
Быў бы,
Каб не чалавек,
Як зямля,
Бясконцым.

## ЖУРАВЕЛЬ

Нанова смага сонца.
Хмель
У скошанай на раніцы траве.
Яшчэ жыве ў засценку журавель,
У локці боль трываючы, жыве.

Было ж, было…
Парою трапяткой,
Як вырвецца на волю Беларусь,
Хацеў штодня пяшчотнаю рукой
Абняць за плечы
Юную зару.
Уздрыгне пад асеннія дажджы
На ціхае курлыканне ўгары.
І стомленае сонца задрыжыць
Іржавым дном
У паўпустым вядры.



## ЛІСТ

І сёння не магу
Пачуць малення
Ліста, што пад нагу
Лёг днём асеннім.
Ліста, што засланіў
Зямлю ад спёкі,
Дрыжэў, нібыта німб,
Навідавоку.
Не змог пачуць, але
Не затуліўся,
Як за лістом услед
Апалі высі.

## ЛАЗНЯ

Больш згрызоты дамагаюць ці мароз
Дух мой — не сказаць выразна.
Целу, задубеламу наскрозь,
Неўпрыкмет прыпомнілася лазня.

Там адзіным злом для галыша
Віўся дым,
Увесь са слёз і жалю.
Каб была чысцюткаю душа,
Мылі голаў,
Вочы праціралі.

Шкадаваць мінулае дарма,
Хоць у паўжыцця мы вінаваты.
Лазня, задубелая сама,
У мароз
Прыпомнілася святам.



## ПРАДВЕСНЕ

Як выбавіць сонца, парай,
З быліннага атачэння.
Імклівай паходкі пара,
І памяць не мае значэння.

Прагаліны стоены звер
Разлічвае зноў на світанне.
І нельга не зведаць цяпер,
Як птушкай
Ваколіца стане.



Ёсць магілы, на каторых
Таямніцы воблік грозны,
Ці то ветру посвіст хворы
На траскучыя марозы.

Прыйдзе сцішаная згадка,
Што стаяў тут крыж пахілы.
А як пуста, а як гладка —
Ці была, ці ёсць магіла?

Але ж звон пакінуў нехта.
След
І лёс адчайны znічкі,
Калі ёсць бярозка, сцежка,
Слова,
Песня
І крынічка.



## У ПОСТ

Мяне вядзі ў грахоўны зман,
Нібы ў далёкія Варняны.
А віны посныя,
Як збан
Пусты, стары, гліняны,
Ці як бярозавік, што ўслед
Дагэтуль ломіць зубы.
Пасціў мой бацька колісь,
Дзед.
Давай і мы прыгубім.

## ПАЧАТАК ЛЕТА

Як для раніцы — нямала
Сонца выпала для нас.
І пчалы нямое джала
Заспакоіцца якраз.

Свет здзіўлёны і наіўны,
Бо ў наступстве пышным зноў
Утаймуе зелянінай
Да асенніх халадоў.





Хто на Ліду, хто на Гродна,
Хто ўзляцець зусім не змог.
Расхістаю прынародна
Трохвугольнікі дарог.
Каб пабачыць, як някепска
Растрывожаны даўно
То прыдзвінскай,
То палескай
Трохвугольнік
Стараной.

## БЫЛІННЫ ПАВУЧОК

Восень, восень…
Ледзь з дарогі збоч —
І забудзеш пра расстанак горкі.
Пяць гадзін —
Яшчэ глухая ноч.
Думкі ж недзе ля бліжэйшай зоркі.

Каб сустрэцца зноў з табою мне,
Колькі вёсен і чакаў, і верыў.
Халадок касмічны — па спіне,
У вачах — расстайны бляск Венеры.

Хтось кране за сумнае плячо.
І па нітцы
Знічкавай
Былінны
Спусціцца асенні павучок,
Прынясе патрэбныя навіны.



## ЦЫРЫМОНІЯ

Май за Прыбалтыку забег.
І раптам зранку… Што такое?
На кветках і на травах — снег,
Адзін шыкоўны панскі колер.

Шчанём галодным да рукі
Ідзе, віляе снег адчайны.
На белым
Чорныя шпакі
Жывуць хвілінаю маўчання.

## ЧЫТАНКА

Абрысы камянёў павінен
Перачытаць,
Прайсціся следам.
Хто напісаў мне аб краіне,
Каб доўга памятаў і ведаў?

Стамлёны, пасяджу пры жыце.
Як стаць удалым, дужым, смелым,
Калі ў найноўшым алфавіце
Бракуе літар зацвярдзелых?



## НАПЯРЭДАДНІ ВЫРАЮ

Блакітныя вочы дзяцей
І вочы такія ж у Нёмана,
А душы яшчэ чысцей —
Твой імідж,
Нікім не паўтораны.
Півоні з танюсенькіх рук.
Як толькі да шчасця нагам дайсці?
Нябёсы акропяць пару
Апошняй маёй закаханасці.

## ТЫ І ВОСЕНЬ

Сполах ластаўчын…
Ці кот драпежны,
Ці каршун развеяў пер’е зім.
І нітуюць з небам Белавежу
Дні.
Баліць, баліць самім.

У паходцы свежай і прачулай
Нам спатканне новае чутно.
Ты і восень
Пэндзлем узмахнулі —
Левітана ціхне палатно.



## ГАЛАСЫ

А песня ёсць і ў каршуна,
Што ў кроне смачна заначуе,
Скляваўшы галасы да дна
Нябёсаў старажытных, чуйных.

Спазніўся б незнарок на сок
І сонцу, пэўна б, не паверыў,
Калі б не скрыпнуў мой парог,
Не пазяхнулі б смачна дзверы.

## СКВЕРЫК НА ПАМЯЦЬ

Вясна.
Між бяроз успамін
Прыходзіць дарогамі вечнымі.
І ў скверыку светлым
Адзін
Каштан з юбілейнымі свечкамі.

У прыцемках наш салавей
Мелодыю сніць кучаравую.
У скверыку тайна жыве
Сцяжынка пад роснымі травамі.
Яго, можа, з часам інакш
Спакусяць гарэзнымі вершамі.
Пакуль жа ён наш,
Толькі наш,
І тым разняволена ўсцешаны.



## БЛАКІТНАЯ ЕЛКА

Надумаў вятрыска з яліны
Аднойчы вясной маладою
Нябёсаў блакіт абрынуць…
Ідзі, не глядзі на такое.

А вернешся з лета калі ты,
Убачыш, як радасна стане:
Пацягнуты туга блакітам
Мой боль
І яе спадзяванні.

Павеў валасоў
Заспакоіць,
Ледзь-ледзь гаркаваты і смолкі.
Уведзены божай рукою
Дажджы
Ў маладыя іголкі.

## ПОЛЕ

Пустэча.
А ні вераб’ёў,
А ні гістарычнага бою.
Маўклівае поле маё,
Нам ніякавата з табою.

Ніхто, апроч майскай расы,
Дачуцца не мог, як заўзята
Гучалі ў табе галасы
І грэліся ў купках зярняты.





Дні і ночы — церпкае віно —
Бласлаўлялі і душу, і цела.
Выйшла так, як сталася само,
І яшчэ
Як ты пад дождж хацела.

Каменем, каб мог,
То занямог,
Каб не чуць мелодыю так востра.
З берага да натамлёных ног
Кінецца зайздрослівая Котра.

Пасылаю вёснам нездарма
Сонца
Пазалочанай манетай.
Індэкса няма, няма імя.
Атрымаеш —
Адгукніся, дзе ты.



Цёплая коўдра аблокаў
Туліць маю галаву.
Копны ячменныя лёгка
На даляглядзе плывуць.

Там, за хмурынкамі, замець
У прадзімовай журбе.
Зноўку мяне вымушаюць
Думаць пра вёрткі рубель.

Выстралю ў дождж парасонам.
Хоць на хвіліну адну
Свет уратую зялёны,
Вас з-за туманаў вярну.



## ВЫШЫНЯ

Дык, значыць, тут да нас ужо былі,
І я цяпер пабуду пры нагодзе.
Па мяккай цёплай маладой зямлі
Хай Бог
І хрысціянін лёгка ходзіць.

Забыўшыся, падзіваяцца няхай,
Куды ляцяць здалёк дадому гусі,
Дзе помніць рукі дзедавы саха,
І без чаго
Сябе я адракуся.

## АКНО

Пары прыкметы залатой,
І ў небе месяц верны.
Аднак я сам даўно не той —
Маршчыны, сум і нервы.

Далей снягі, мароз, зіма
За палявым раздоллем.
Яшчэ ў акне цябе няма,
Акрыленай і вольнай.

За шклом віруе маладосць,
Збудзіўшы сны і лужы.
Акно…
Удзячны, што ты ёсць
І што праўдзіва служыш.



## ВЕРУЙ

Раніца высямі поўніцца,
Што з-за Ласінай гары,
Дыхае роднаю вольніцай
Слоў,
Што прарок гаварыў.

І філасофіі тонкае
Быць не бывае вышэй
Мне ад твайго падаконніка
Чэрвеньскіх юных начэй.

З думкай,
Як завязь, бязгрэшнаю,
Вымеўшы хмараў клубы,
Дзень для цябе аднавешваю —
Веруй,
Пакутуй,
Любі.

## ПА-НАД СТОМЛЕНАСЦЮ ЯБЛЫНЬ

Сад на ціхім фотаздымку,
Дзе жылі вы і дзе я быў.
Нечаканы пах узімку
Па-над стомленасцю яблынь.

Не прыпомніце няўжо вы —
Дзень, антонаўка…
І потым
Між аблокаў, скрозь ружовых,
Час пралітага кампоту.



## ЦЕНЬ МАТЫЛЬКА

Каб сустрэчы штодня не чакаў,
У нябёсах заінела б сцежка.
Мільгануўся мне цень матылька,
Між завеі прыпомніўся ўсцешна.

І рыдлёўкай, і думкаю мы
Цераз дол,
Белай поўняй зашклёны,
Да глыбіннага сэрца зімы
Пранікаем надзіва ўтрапёна.



Пры новай стрэчы,
Пры вясёлым шанцы,
Пагляд адвёўшы задуменны ўвысь,
Маўклівую душу не прымушайце
Іграць,
Тым больш іграць на біс.

Пакіньце нарасхрыст вароты.
Падраніўшы няўмелае крыло,
Няхай прастуе лета беззваротна —
Яно ні кропляй нашым не было.

Пра нас захочаш музыку паслухаць,
Паклаўшы голаў ціха на плячы:
Гудзе той лес
І вусцішна, і глуха,
І поле дзікім каменем маўчыць.

Ужо не будзе ўвішна разадзета
Ярчэй мая дарога і пышней.
І нават не шкада,
Што зноўку лета
Пачнуць дзікі шукаць у баразне.



## НАПАЧАТКУ

І забытыя пальчаткі
Спяць балонкай у метро.
Нам сустрэцца б
На пачатку
Песні вернай
Пад гарой.

Веснавая ўсюды пральня
На дарогах пад абед.
Нам спачатку б да цэнтральнай,
Чым адразу ў божы свет.

## ТУМАН

Здзіўленыя кропелькі на вербніцу
Засланяў ад воч,
Гасіў туман.
Валацуга.
Усяму не верыцца.
Сам блудзіў,
Людзей завёў у зман.

Ці туман крадзецца, ці прыпарвае —
Не згадаць.
Абы прыйшло цяпло.
Шчасце маладое кучаравае
З рук
У лета міма паплыло.



## ЭКСПАНАТ

У былога не вымераць дна
Навальнічным пранізлівым стрэлам.
Пазалочаная цішыня
Натамлёных суцішаных стрэлак.

Дзень затуплены месяц прынёс,
Каб ізноў па Купальскай нядзелі,
Разамлелыя ў полі нябёс,
Каласы пад сярпом тваім спелі.

## З-ПАД МІНСКА

У круг мужны рымлянін выйшаў,
Пусціў распагоджаны дыск.
За горкай канчаецца ціша,
Пачнецца разгневаны Мінск.

Прыеду ад сонца, ад лета,
І будзем у злую зіму,
Што дзіўная наша планета,
Даводзіць адзін аднаму.



## ОДУМ

Ужо не табе аднаму
Туман аканіцы ахутаў.
І добра, як будзе каму
Прыпомніць дарогу на хутар.

За дзень да сляпога дажджу
На плошчы набожнай Гародні
На Масленіцу пагляджу,
На словы і ласку галодны.

Твой одум мне стаў дарагім
У засені даўняе дзічкі,
Як выслалі
Чысціць снягі
Да зораў
Сяброў закадычных.

## БОСКІ НЕВАД

Тут напярэдадні Каляд
Закінуў дзед у зоры невад.
Імклівы ксёндз,
Нібы зямля,
Якой спяшаць на свята трэба.
Сучасны ксёндз.
Паспець за ім стары не можа —
Ноч малая.
І думкі, невадам тугім
Дастаўшы з высяў,
Пачынае,
Нібыта пацеры, казаць
Пра новы дзень,
Святое неба,
Але найбольш — пра сенажаць,
Пакуль трывае
Боскі невад.



## У ТАКТ

Мы з манашкаю замолім
Грэх хвілінаю адной.
І звыкаюся з зімою,
Са спакоем, з цішынёй.

Праз хвіліну мне здаецца —
Ціхне там і Нёман так.
Дык чаму ж гатова сэрца
Лёд крышыць,
Каб плыць у такт
І былым світанкам босым,
Што сплывалі ўдалячынь,
І Радзіме,
І нябёсам,
І свайму бадзягу-лёсу,
Што задрэмле на плячы?

## КІРПАТЫ МАЖОР

Наміткай неба перацёр
І здымкі, каб праз век дзівіцца.
Кірпаты спешчаны мажор
Ізноў наведае святліцу.

Збіраем ветразі ў адно,
Дажджы, усмешкі і надзеі.
Тады мы злыдні,
Як даўно
На зоркі моўчкі не глядзелі.

Ліхія думкі гонім прэч
І затуляемся ад ветру.
Яшчэ мой верасень — не рэтра,
Калі так хочацца сустрэч.



# Быць каля Вас,
# каля цябе...



У дзень народзінаў Хрыста,
Мінаючы пагоркі,
Вясновым ветрам прасвістаў,
Не агляну́ўся.
Толькі
З будзёншчыны сівой, здаля
Высакародна,
Годна,
Гожа
Ты ў храм спяшалася.
А я —
Табе насустрач…
Божа, божа…

## БЫЦЬ

Праехала веласіпедам,
Ва ўсім незалежная,
Хтосьці
Каб ведаў,
Што ты, недасяжная, ёсць.

І дзень гэты можа канчацца,
Парваўшы апошнюю ніць,
Напомніўшы лёгка пра шчасце,
Што можа
І быць,
І не быць.





Не спіцца.
Табе па радку,
Па слову дару сенажаць.
Вазьмі незнарок у руку —
І можаш чытаць,
Не чытаць.

На аркушы белым зямлю
Люблю
І зарой спаласну,
Каб потым,
Калі задрамлю,
Табе не хацелася сну.

## ЯБЛЫК

Не здагадвацца нават,
А сніцца.
Не зважаць, не туліць —
Берагчы.
Недзе ты за дзвярыма зарніцы,
Стынуць пальцы на клямцы ўначы.

Парываннем далёкага лета
Спелы яблык скаціўся на дол.
І свяціўся
Ад рук тваіх гэтак,
Што сумеўся антычны мой стол.





У кабінеце вашым, акрамя
Мабільніка і бра,
Увесну
Пануе ружаў цішыня
На падаконніку нябесным.

Яшчэ з пячаткай заадно
Жывуць, не просячы ратунку,
Мае замкнёныя даўно
На ключ
Узвышаныя думкі
І сонца звон, і на бяду —
Паўзмрок затоены хвілінны.
На жаль, калі я ні прыйду
Сюды,
Усё — без гаспадыні.



Ад размовы нашай, пэўна, смешна
Хмаркам, што міналі.
А пасля —
Ранняя нясмелая чарэшня,
У паветры лёгкая кісля.

Так заўсёды.
Болей не прыеду,
Як сказаць чаго не буду мець.
Пойдзе дождж ізноў пасля абеду,
У адну нас паланіўшы клець.



## КАЛЯ ЦЯБЕ

Пасцеле мякка
Хмаркай хто Вам
Пад поўняй яснай, маладой?
І прадчуваю кожным словам,
Паглядам, думкай і хадой:
На бераг той,
У край зялёны
Мне вецер запаведзь прыб'е,
Калі заружавеюць клёны,
Быць каля Вас,
Каля цябе…

## АСЕННІ МІНОР

Пойдуць залевы,
Як росаў не стане.
Не красавацца маёй старане.
Недзе сабакі
Жывуць у тумане,
Злыя здавён на зіму і мяне.

А на світанні
Рабіна агоркне,
Лезе на вочы,
Нібыта бяда.
Ты прапануеш скасіць на падворку,
Мне і лянота, і траваў шкада.

Чыркнула сонцам
Па небе высокім
Хуткае лета
З-за грывы каня.
Толькі сцюдзёныя з ветру асокі
Нас нагадаюць
У завадзі дня.



## ПРЫТУЛАК

Зазімак ранні.
Свежасць малюнкаў.
Дзень расставанняў —
Час пацалункаў.

Ісціну тую
Амаладзіла,
Што наш прытулак
Светлы надзіва.

Знікне пад вечар
Ластаўкай лета.
Выйдзеш на стрэчу
Хоць напаследак?..

## ЗГОДА

Скончылася лета,
І падпоры
Можна прыбіраць ужо пакрыху
З-пад яго сукоў.
Вось загаворыць
Пэндзаль восені,
І вераб'іха
Больш нявернаю цяпер не будзе
Аж да крыгалома.
Згода…
Нават ты
Дазволіш памарудзіць
Сёння ўпершыню з прыходам.



## ПРАЛЕСКІ

З-пад хвоек
Выплылі аднойчы,
Як стала зорка маладая.
Цяпер няма
Праз лета ночы —
Світае і світае.



На свет звысоку паглядзець
Смяротнаму не дадзена.
Ледзь разагнаўся лёгка дзе —
Калдобіны, ухабіны.

Прыходзіў двойчы май дарма
Пад вокны задубелыя:
То сонца цэлы дзень няма,
То ты незразумелая.

І толькі шчасце піць нагбом
Хвілінамі і суткамі
З засеяных пад дождж табой
Нябёсаў незабудкавых.





Мы, здаецца, сном перахварэлі.
Хай жа вочы наталяюць зноў
Змешаныя ў небе акварэлі
Сонца і запаленых снягоў.

Праваднiца клопатам агорне
Ў радасным, вясёлым паліто:
— Хто выходзіць будзе каля промня,
Каля ружаў ці выходзіць хто?

Ці не трэба вам ля снегападу?..
Праваднiцу шчыра палюблю.
Але толькі ля твайго пагляду
Я ступлю на гэтую зямлю.



Пальцы ўзляцелі,
Апалі.
І, як дагэтуль ніколі,
Брамса эпоха ступае
Велічна па пакоі.

Пэўна, на сонцы зноў плямы.
А ў кругаверці асенняй —
Толькі парог паміж намі,
Толькі імгненне.



## АРЭШКІ

Чаканне стала,
Нібы восень,
Рыжым.
Яго дурман
Букетам прынясу.
Пад музыку далёкага Парыжа
Падковы вытанцоўваюць слязу.

Сыграеш ты рапсодыю нарэшце,
Дажджом заштрыхаваную на шкле,
Калі пакет загадкавых арэшкаў
Вавёрка
Праз мяне
Пад вечар перашле.

## ПРА ВЕРШ

Нібы сябе,
Ратую верш.
Нібыта нас з табой,
Ратую.
Няхай нанова ажыве,
Задыхае пад ноч святую.
Няхай падзівіцца найперш,
Пакуль не бачаць-чуюць людзі,
Як ты, сустрэўшыся,
Зірнеш,
Як пільна слухаць месяц будзе.



## ВУЛІЦА

1

Дзён мінулася нямала.
Цішыня наўкола стала.
І нішто не прадказала,
Што ты вуліцай ішла.

Ні па хмарах не прыкмеціў,
Ні па тонах салаўя.
І няўжо на гэтым свеце
Ты ёсць ты,
А я ёсць я?

Супакойваў снег даліну
І сцяжыны нездарма.
На святога Валянціна
Пачыналася зіма.

2

Самалёт імкне да зоркі,
Думка — следам
І — далей.
Яблык дзікі стаў не горкім,
Ветру голас прасвятлеў.

У маркоце час не бавіў,
Зразумеўшы праз гады,
Што і вуліца любая
Ў два канцы вядзе заўжды.



## ПРОСТА

Днём і я быў шпаркі,
Ды знасіўся дзень.
Дым
У кошык хмаркі
З коміна ідзе.

Як?
Мы расстаёмся?
Нават назаўжды?
Залатая восень —
Рэшата вады.

Проста з маладосці
І на шкле
Ўваччу
Адыходзіць штосьці
Цітрамі дажджу.

## ВАША СВЯТЛО

Па сасонніку — стрэс:
У аблокі
Паланіла вярхі дзе-нідзе.
Азірніся на мой адзінокі
Невясёлы, захмараны дзень.
І прыслухайся
Профілем чуйным
Да маіх задуменных вачэй.
Што дыханне спадзеву пачуеш,
Ёсць надзея і прага яшчэ.
Недарэчны далёкі псіхолаг
Як бы быў і нібы не было.
У пакоі і пуста, і гола,
Каб не лёгкае ваша святло.





Зіма між намі паннай.
Пад густ снягі патрапілі.
Аж галаве туманна
Ад снежнай следаграфіі.

Знаходка і прапажа —
Рака, у лёд закутая.
Як прыйдзеш —
Не заўважу.
Як пойдзеш —
Дзень пакутую.

## НЕ ТОЛЬКІ

Не толькі на тваіх плячах
Цяжкіх аблокаў едуць цені,
А потым ззяюць у вачах
Любоў і радасць вечар цэлы.

Не толькі за душой тваёй
Кахання стогн,
Свячэнне,
Памяць.
А потым плач
І вараннё…
А потым смешна стала плакаць.

Гучыць птушыны стройны хор,
І ўпершыню ты змоўчыш, колкі,
Бо таямніцы вечных зор
Не толькі над табой.
Не толькі.



## НОЧ НА ПАРУ

Пра што казаць глыбокай ноччу
Сярод дажджу, сярод слаты,
Калі бяссонніца не хоча
Прамокнуць аж да хрыпаты.

Ёй захацелася, здаецца,
Перачакаць са мною дождж.
А сэрца, стомленае сэрца
Там, дзе віруе маладосць.



Дзе кахаў,
Вяртаешся туды,
Покуль зарапад не супакоіцца.
А ад расставанняў
Церпкі дым
Цягне з небакраю па ваколіцы.

Свет люблю,
Расстання акрамя.
Толькі вы,
Як зноў прайду, мажліва, я,
Не рабіце выгляду дарма,
Што мяне не бачыце,
Шчаслівага.





Чакае восені
Стамлёная зямля,
Пакуль жа шчодра сватае і жэніць.
Суседка задуменная мая
Разгублена чакае прадаўжэння.

Дзіцячацца гарэзліва лісты,
Ні пакараць, ні зграбіць шапатлівых.
Абцасікаў знаёмы пульс густы
Чуваць,
Пахаладзееце калі вы.



Нікому не кажы, што лесавік
Не брат табе ці не каханак.
Я да маўчання срэбнага прывык
Русалкі,
Што сабой са svіцязянак.

Распрадаюць сівыя жабракі
Па слоўцу-залатоўцы
Памяць.
У хвалі запусці
Сваёй ракі,
Што бераг мой
Няшчадна падмываюць.



## ДЗІКІ ПАХ

Плюшчом і дзікім вінаградам
Альтанка памяці даўно
Абвіта.
Ты ж нібыта рада.
Твой голас,
Нібыта віно,
Цячэ па трубцы тэлефоннай,
Не наталяючы аднак.
Аднак мы соладка прыпомнім
Альтанкі нашай
Дзікі пах.

## ПОМНІШСЯ

Ужо даўно не навіна —
Бяссонніца ў піжаме.
Вось я, там — цёплая яна,
І думкі — паміж намі.
Нібы стракаты матылёк,
Прынесены з дрывамі,
Знарок ужо ці незнарок
Табой уратаваны.



## МЫ — ТАКІЯ

Чым бліжэй да дзевяці,
Тым грымотней стукі сэрца.
Ты прыезд свой прысвяці
Мне,
Каб свет з вачэй не сцерці.
Бо здадуць выпускнікі
Ліст апошні —
Дзень змаўкае.
Застануся.
Я — такі.
Ты з'язджаеш.
Ты — такая.

## АДНОЙЧЫ

Не да ладу, пэўна, гэта,
Для душы і вока дзёрзка:
Уязджае ў вёску лета
Ды на белым замарозку.

Мы кастры дарэмна палім,
Дым пускаем супраць ночы.
Вочы ў вочы
З ціхім жалем
Мы сустрэнемся аднойчы.





То прыходзь.
Хоць у думках прагляну
Напярэдадні свежасці роснай
На знаёмую ў кветках паляну.
Без цябе яна —
Зараснік проста.

Стане заваддзю немаю выдра,
І янот небыліцаю стане.
Я ж дыханнем хіба толькі выдам,
Як сумуюць вятры на паляне.

## ЛЕГЕНДА ПРА СЭРЦА, РУКУ І ЗОРКУ

Прасілася зорка пагрэцца,
Завеі паперачакаць.
Згаджалася добрае сэрца,
Маўчала будзённа рука.

Як дзень стаў глухі і кароткі,
Як холад на рэках расце,
Сагрэлася сэрца ля зоркі
І не дацягнуцца руцэ.
То ўвысь, то да вернага сэрца
Ляцела,
Пабачыць абы,
Як зорка дрыжыць,
Каб сагрэцца,
Як сэрца баліць,
Каб любіць.



## ПАМЫЛКА

Яшчэ дачакаемся гордай травы,
Пакоцяцца ў росы тугія каралі.
Прабачце, але неразважліва вы
На дыску сумніўныя лічбы абралі.

Цяпла захацелася моцна для ніў,
А потым дажджу —
Для палеткаў стамлёных.
З-за хмары, бы сонца,
Бяздумна схапіў
Я трубку чужога даўно тэлефона.

І раніцы не зразумець аднаго,
Не ўцяміць сягоння святое нядзелі,
Як сталася тое,
І дзеля чаго
Мы так памыліцца
Пад восень паспелі.

## ВЕДАЎ

Ставіў кропку марна,
Галасы глушыў.
Ведаў, што не стане
Лёгка на душы.

Паскакаў на гнедым
Пад пярун якраз,
Бо не стане — ведаў —
Спакайнейшым час.



## ЭКЗАТЫЧНЫ СОН

Пад ветразямі белых дрэў,
Там, дзе пясок і горы дзе,
Малазнаёмую сустрэў
У незнаёмым горадзе.

Каб не праліць, гарбату піў
Глыткамі смачна-дробнымі.
І толькі ведаў дождж сляпы,
Як стала ў свеце добра мне.

Вада змывала сон, але
Застыла лёгкай стратаю
Пад колер вуснаў
На стале
Гарбата гаркаватая.

## ШТО ГЭТА?

Дням мінулым трэба верыць,
Хоць навобмацак вяртацца
Ў прызачыненыя дзверы
І замшэлыя палацы.

На душы світальна стане,
Час мядовы,
Міг ліпучы.
Гэта, пэўна, не вяртанне,
А прыход.
І немінучы.



## УПЕРШЫНЮ

На вячэру дачакаюся сініц,
Іх ніколі не бывае мноства.
І паўторацца паволі да драбніц
Вецер, сцюжа,
Недавер і помста.
Неба на далонях ля агню.
Тое ж азарэнне
І дарога тая ж.
Толькі мы з табой сягоння
Ўпершыню
Паасобку
Дні свае
Перачытаем.



Сентыментальным буду рэдка,
Крылатым жа — яшчэ радзей.
А ўсцяж асенніх позніх кветак
Жанчына гордая ідзе.

Пакуль гады не перастануць
Кружыць,
Адказу не стае,
Чые пагляды, кветкі, памяць,
Калі радкі мае, мае…
Калі сцяжынак покліч ясны
Вядзе ваколіцай яшчэ
Ад хвалявання даўніх красак
Да несуцешаных вачэй.



## ТАЦЦЯНІН ДЗЕНЬ

Хто, падумаў, што Таццянін
Дзень калі міне
І, збудзіўшы, проста стане
Абмінаць мяне.

Хоць сукенку пры нагодзе
Белую надзень,
Бо нібыта не ўзыходзіць
Наш адметны дзень.

Шмат дарог схадзіў абы дзе,
Дбаючы наўсцяж.
Не паверыў, што надыдзе
Дзень расстайны наш.

## СВЕТЛЫЯ ДЗІВЫ

Чуецца голас знаёмы напеўны,
Чаркі наліты гасцям да краёў.
Там, за гарой, пачынаецца, пэўна,
Геамагнітнае поле маё.

Што так карціць,
Каб паспець да адлігі
След у тым полі пракласці ясней.
Можа, аднойчы дзве верныя лыжы
Зноў нагадаюць цябе і мяне.

Лёгка мінуліся светлыя дзівы,
Пахне здалёку празрысты іх мёд.
Зноўку на лапках гусіных
Крыклівы
Перабягае
Дарогу
Сумёт.



## САКАВІЦКІ ЗМАН

Правіць сцюжа небакраем
І завулкам вузкім.
Сакавіцкі зман
Кранае
Галасы
І вусны.

## СУМНІЎНАЯ МЯЖА

Забрала да сівых легенд дарога.
Ды колькі свежых раніц ні пражыў,
Не дзелячы, па сутнасці, нічога,
За годам год
Паную на мяжы.

Мяжуюць тут
Усход і светлы вечар,
Два берагі,
Туман і дождж сляпы.
І моўчкі,
Моцна дбаючы аб нечым,
Мяжуюць пагранічныя слупы.

Даўно стамілі залатыя межы,
І сёння ўслых упершыню кажу:
А можа, нам з табой ужо належыць
Пераступіць
Сумніўную мяжу?





Даўно ціхоняй і пакорай
Зямля ў снягах.
Пры барадзе
Напаўцыган-метэаролаг,
Хоць падманутшы, абнадзей.

Бо як бы срэбрам ні плаціла
Мая пара
Ў маёй глушы,
Хачу яшчэ
На Валянціна
З табой прамерзнуць да душы.

## МІЛАЯ ЗАМІНКА

Не дождж, то вецер.
А не вецер,
То сонца слепіць і пячэ.
І гор высокіх не прыкмеціш,
Што замінаюць жыць яшчэ.

Сняжынка,
Кпінка
І слязінка…
І ты ўскудлаціш галаву.
Замінка,
Мілая замінка,
Як замінаеш —
Я жыву.



# Світальнае

## ПРАЎДА

*І. І. Фясенку*

Каплічка ля самай дарогі,
Сіроцкі завеяны лёс.
Няскораным твар быў і строгім,
Бы ў княжацкі шолам урос.

І самым багатым на свеце
Прыйшоў чалавек ад святла:
Любілі старыя і дзеці,
Радзіма навокал
Жыла.

А поруч і годна, і варта
Стаіць на падмурках штодзень,
Штоноч
Старадаўняя праўда
Замест пакалечаных сцен.

## РОДНЫ ПАСТУЛАТ

Быць бы маладымі,
Як пад лівень лета.
Не было б Радзімы —
Не было б паэта.

Кожны ў далячынях
Аб любові мроіў.
Не было б Айчыны —
Не было б герояў.

След вякоў крушынны,
Лёс зямлі адзіны.
Але ёсць Айчына,
І жыве Радзіма.



## СВЯТЛО

А раніца надарыцца ў жыцці,
Што трэба думаць за сябе і веча,
Распачынаць яе
Ці лепш пайсці,
Паўнеба цяжка ўскінуўшы за плечы?

Начэй дарогі павядуць назад.
Мне ж у прасторы не згібець айчыннай,
Бо людзі асвяцілі далягляд
Сваімі неўміручымі вачыма.

## ГОСЦІ СТАЛІЧНАЙ

Прыедзь са сталіцы пад весну.
Падзіваць у снезе густым
Карункі бліжэйшага лесу
На шапцы забытай Літвы.

А лес той — бацькоўская ласка
Былога суседа майго.
Спачатку здавалася казкай
Мяжа, дзе не ступіш нагой.

Пагоны зялёнага бору
На плечы спусціліся дням.
І штосьці гадаюць-гавораць
Замежныя воблакі нам.

За Нёмнам, за сонцам ужо ты.
А тут, у лясной старане,
Адна з тваіх цёплых экзотык
Пад снегам зімуе ў мяне.



## ПРЫСНЁНАЯ ПТУШКА

І рада вясна, і не рада —
Усё перайшло, як туман.
Быў конь мой нястомны,
Як праўда,
І слабы быў часам,
Як зман.

Не гнуў выпадковых падковаў,
Што знойдзены ў стыні сівой.
Быў згубленым словам
І словам
Асветленым колісь табой.

Дарога да броду
І міма
Выводзіла днём
І ў смугу.
А сніцца мне птушкай Радзіма,
Якой дачакаць не магу.

## ЗАПРАШЭННЕ

Так высока ластаўкі лятаюць,
Што чутно,
Як рвецца промня ніць,
І як там бязвоблачная памяць
Лёгка, светла
Крыльцамі дрыжыць.

Незнарок забуду развітацца,
Знікну, нібы дзень асенні, скрозь.
І на велічнай арбіце танца
Вернемся
Ў стагоддзе мілых слёз.



## АДНА ДУША

Адна душа
Бяссонніцай завецца.
І думкі не суцішацца твае.
Жыве не то ў сутонні, не то ў сэрцы,
Забыцца на былое не дае.

Калі пасля марозаў пуста-гола,
Азвацца ў жылах сок яшчэ не змог,
Усходзіць юнай навальніцы голас
Ва ўсіх слыхаўках выстылых аблок.

Адна душа,
Як свята на Каляды,
Як раніца ў аповесці.
Альбо
Адна, як багдановічава радасць
І як ясенінскі адзіны боль.

## ПАСЛЯ СЦЮЖЫ

Памятаю бярозу
Яшчэ маладой,
У вясеннім гудзе.
А канца вашай лекцыі той
Не відаць
І, напэўна, не будзе.

Хто забраў перамёрзлай зямлі
Сок, што лісцям да смаку дужа?
І паверылася вам калі,
Вы пайшлі, на мяне не зірнуўшы.



## «СНАПОК» ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ

Дастаў «Снапок»
Бічэль Дануты
З-за шкла,
З-за часу,
З-за зімы.
Пытаўся люты, ці абуты,
І май — ці маладыя мы.

Нібыта яблыкаў сыпучых,
Увосень
Вецер зор наб'е.
І стане сумна і балюча
За край,
За лёс
І за сябе.



*Уладзіміру*
*Караткевічу*

Нязбытнае
Шчымлівай дымкаю
Пазначана кругом.
Распачынаўся фотаздымкамі
Той добры шосты том.
Па веры матчынай,
Па шчырасці
Зноў маю прысягнуць,
Барам, вачам,
Каб вырасці
На кропельку адну.





Чырвоныя слядкі рабіны
Ў ніякаватым небе зноў.
Іх хутка замяце
І вінны
Адыдзе пах уздоўж садоў.

І апантаны,
Нібы хмары,
Гарачым лісцем — добры знак, —
Зашамаціць на тратуары
Зноў палітычны маладняк.

## РУХ

Юны век
Над светлым гаем.
Селянін збярог зямлю
І ў аглоблі запрагае
Старасць хілую сваю.

Нібы месяц,
Блік жалобны.
Навакол — знаёмы рух:
Дзе не могуць без аглобляў,
Там аглоблі прагнуць рук.



## КАРЦІНА

Плыць па свежай сіняй рэчцы
Лёгка выпадзе цяпер мне,
Быццам месячыку ўлегцы
Заляцацца да Венеры.

Тут зубры пілі памалу
Слодыч-боль пад вербай ніцай.
Шчупаковай пашчай
Хваля
Сустракала чужаніцаў.

Берагі ў агнях шыпшыны
Назаўсёды абагрэты.
Незнаёмая карціна —
Падарунак на паўсвету.

Мы пашэпчамся аб нечым
З хваляй вернай, апантанай
І абдымемся за плечы
Прад сусветным акіянам.

## СНЕГ

Старыя вароты
Прыводзяць у казку.
Маё хваляванне
Затоіць рака.
Такога, напэўна,
Ніхто не чакаў —
Вяртацца ў былое
Нікольк не цяжка.

Далёкая зорка —
Прынцэса Дзіяна,
Пра блізкую
З месяцам
Я памаўчу.
І снег праз вякі
Ўваскрасае ўваччу
Для ўсіх,
Для мяне ж —
Удвая нечакана.



## ПРАРОК

*Міколу Мятліцкаму*

Тое помніцца ўсё роўна,
Як паволі, з-за пляча
Ты да Віліі чароўнай
Гром вясновы прыручаў.

Навальніца вінавата.
Дачакалі свята-дня:
Будзеш сватам,
Стану братам —
Нечуваная радня.

Паплыло кіпенне маяў.
І, напэўна, незнарок
Нас здалёку выглядае
Юны быстрыцкі* прарок.

---

* Быстрыца — вёска на Астравеччыне.

## ЗВАНОК

*Л. Кухарэвіч*

Шчабятанне маленства чуваць.
Сум світальны
Аерам прапах.
І гатова ізноў сенажаць
Гушкаць свет на нястомных руках.

Тэлефонная трубка сабе
Змоўкла.
Гора ёй мала ізноў.
А ў Сусвеце твой голас жыве,
Разгараюцца
Пацеркі слоў.





У лета гаманлівае пайду
Па ўскрайку самым-самым Беларусі.
А спадабаецца — зялёную буду
Накрые лес,
Там панам застануся.

Змарнуюць недаспелы мокры рапс,
Паклічуць на дажынкі,
Зжаўшы троху.
Прайду ля шчасця міма,
Як не раз мінуў баравіка,
Што ў цёплым моху.

А пад акном, чакаючы радком,
Гарацьжоўта-зялёна туі.
І покуль дзень
Не пойдзе паплаўком
На дно,
Карась са мною пахітруе.

Дажджамі змыты ў кроны маладзік.
Ляцяць гады,
І кожнаму, магчыма,
Як шмат хадзіць,
Не грэх і паблудзіць,
Каб выбіцца аднойчы
На Радзіму.



А з фотаздымкаў на сцяне,
З бяроз салодкіх, дужа ранніх,
Сыходзіць час
Углыб мяне.
А я шукаў у ім прыстання.
Багаслаўляў высокі час,
Пакуль не вынайшаў святое,
Што ён і я,
Што двое нас —
Адно і тое ж,
Тое ж… тое ж…



## МАМІН МАЛАДЗІК

Рэчы памінулі.
Не шукай.
Падалося толькі цемрай самай —
Ранішні сярпок маладзічка
Зноў спатрэбіўся
Руплівай маме.

Заплыве ў паўночнае акно
Паркім жніўнем ціха і спакойна
І маўчыць,
Падвешаны даўно
Цёплаю знаёмаю рукою.

## БАБРЫНЫЯ ЗОРЫ

Ад воч схаваўшыся,
Ад промняў ясных ават,
Бабры,
Як пасля зімаў ні прыйду,
Будуюць і будуюць
Хаткі на канавах,
Разцамі зоры
Выкрасаючы ў ваду.



## ГРЫБНІЦА СЛОЎ

Па верасе, па моху адмысловым,
Надзел заняўшы лесу на дваіх,
Шукаем мы
Грыбніцы словаў,
На смак спрабуем
І на слых.

Спрабуюць птушкі.
А грыбніца чынна
Затоіцца,
Нібы душа сама.
Ды рот і вочы
Злое павучынне
Нам забівае, пэўна, нездарма.

Як толькі песні родныя заснежыць —
На міг адзін суцішацца яны.
Калі ж абледзянеюць вежы —
Не далей,
Як да першае вясны.

## ЛЕБЕДЗІ

*Майстру*

А вы не паляцелі ўдалячынь,
Застыўшы назаўжды прыгожымі
Без крыку, болю, жалю —
Без прычын,
Каб век цяпер зайздросцілі прахожыя.

Узмах крыла завеі прадракаў.
Ужо хмурынкі кружаць над радзімаю.
Туман вачэй.
Каменная рака.
І толькі вернасць — лебядзіная.



✧ ✧ ✧

На ноч бяссонніцай не грэбуем —
Свавольніцай багіняй.
Адным сабе цяпер патрэбныя
І штозіму — ангіне.

Пасталі смелымі і вольнымі,
Кампаніяй адзінай.
Пазацікавіліся войнамі
І крышачку — Радзімай.

Ляцім завоблачнымі птушкамі
Па восені,
Па пахі гразкай.
І, як ніколі, любім Пушкіна
За рознаўзроставыя казкі.



Ты не мог не стаць паэтам.
Нараджаючыся.
Слова
Наша роднае нанова
Думку думала пра гэта.
Ты не мог
Не стаць паэтам.



## МУЛКАЯ НОЧ

Убаку ад лета,
Побач
З доўгаю зімой
Клёны чорныя,
Як пробашч
Ці як роздум мой.

І прылеглі пацiхеньку
Пасля ўсіх дарог
Цішыня на мяккіх вейках,
Цемра каля ног.

Ды не той рукой паслана
Пад крутой гарой.
Ноч натомлена нямала
Песняю чужой.

## БІТВА

Падобна, што яна мяне чакала
Ўсю ноч за занавешаным акном.
Ледзь сон сышоў за ценямі памалу,
Глынула цалкам,
Нібы хвалю сом.
Учэпістая, прыкрая праблема
Абклала, заняла зубоў у сто
Спачатку нетаропка,
Нават лена.
А потым — бітва,
Галасы і стогн.
Ізноў-ізноў на белае паперы
Даводзіць свету,
Покуль Бог бярог,
Што homo sapiens,
Пазбавіўшыся цемры,
Устаў на ногі
Дзеля перамог.



## ДА ПАЭТА

Яшчэ пагрэе тыдняў колькі —
І сонца выстыне ўгары.
Стальны замок куюць для школкі,
І ціхнуць грудай буквары.

Дзень незнаёмы, хоць і новы,
Надыдзе, збавіўшыся зім.
Самотны юны Багдановіч
Тут застанецца назусім.

Пяройдзе боль душы.
Ажыне
Такой нуды,
Такой бяды.
Не гаспадар
І не чужынец,
Калі прыйсці
Няма куды.

## ВЕРШ НА ПОТЫМ

Час Гіпакрата туманны.
Вось і яна з палкім гартам
Лечыць не хворых,
А самых
Вельмі патрэбных на заўтра.

З белых пакояў князёўну
Выклікаць хоць на прыступкі
Не давядзецца ўсё роўна.
Край вымірае ціхутка.

Лёс па вясне заклякоча
І адкукуе дармова.
Некалі, глянуўшы ў вочы,
Як падабраць будзе словы!



## УСКРАЙКАМ ЛЕТА

Ускрайкам лета
Сходзяць мары
На школьны велічны бальшак.
Калі яшчэ самаахвярна
Гараць і пахнуць
Кветкі так?
Знікаюць ластаўкі.
А недзе
Ляцяць пагляды, душы ўслед.
І зноў па зоркавым санеце
Пазнае хтосьці
Свой сусвет.

## КРОПЕЛЬКІ

Мокне стракаты дыван на страсе,
Распачынае жыццё панядзелак.
Будзеш і ты
Гадаваць, як усе,
Радасць сваю,
Каб зямля маладзела.

Кропелькі светлыя перадасі
Ў час невядомы, далёкі і новы.
Пераліваючыся, галасы
Выкуюць звонкія, верныя словы.

Кропелькі чорныя тайна збярэш,
Богу падзякуеш з роднае нівы.
Хай дыванам на страсе даўні верш
Мокне,
Забыты табой,
Ды шчаслівы.





Спешным роем на зямлю,
Пакружыўшы, клаліся
Тыя вершы, што люблю,
Быццам бы на клавішах.
Разняволіць спакваля
Пад знаёмай вербаю,
Каб ізноў,
Што гэта я,
Ты мне не паверыла.

## ЦЯПЕР

Была б аж дагэтуль жывая,
Няхай неспатканая,
Не ведаў бы, што аціхае
Прынцэса Дзіяна.

Мадонны
Зямную красу мне
Падораць старанна.
Цяпер жа балюча і сумна,
Прынцэса Дзіяна.



## АПЯКУНКА

У горкі час расстайны
І ў міг сустрэч на вуліцы
Ўсе
Паўсюдна тайны
Табою апякуюцца.

Пад выбухі грыбніцы,
Маўчанне навальнічнае,
Каб з космасу прабіцца,
Да рук сваіх
Пакліч мяне.

## НАПАЎЖАРТОЎНАЕ НА ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Па сцяжынах
Праз сонныя дзверы
Прыйдзе дзень — мой вясёлы прамень.
Між такіх адзінокіх і шэрых
Хоць вянком прад гаданнем надзень.

У слядах халадок дужа ранні
І на вейках трывога, але
Пачынаецца ўсё з хвалявання
Птушанят у высокім гняздзе.

Мой анёл,
Хай жа ворагаў стрэлы
Не кранучца любові ўва мне.
І жалезная лэдзі
На белым
Павіншуе мяне скакуне.



## ПОЗНІ ЗВАНОК

*К. Л.*

Не адходзьцеся далёка,
Каб заўжды пачуць маглі
Кліч матулін,
Буслаў клёкат,
Боль стрывожанай зямлі.
Каб успомніць, як ты ў класе
Засланіла свет і час.
А як памяць адракласся,
Спахапілася пра нас.
Не адходзьцеся, каб змалку
Не блудзіць на чужыне,
Не складаць дарог кавалкі
Ў магістралі па вясне.
Еўрапейскія навіны
І аблокі з-за мяжы
На дабро
Цяпер павінны
З боскай ласкі
Паслужыць.

## ЖУРАВЫ

Пад час пакошанай травы
Куды ізноў спяшаюцца,
Спазнаўшы радасць,
Журавы
Надвечарам
І раніцай?

Будуем восені павець,
Зрывае кроквы смерч ліхі.
Ляцяць,
Каб неба зразумець,
Стагоддзяў наканечнікі.





Адыдзе першая трывога,
І лёгка дыхаць стане мне,
Калі не здарыцца нічога,
І над табой світаць пачне.

Калі мне кропелькай крыніцы,
Што пад спрадвечнаю гарой,
Наканавана падзяліцца
З высокім промнем
І з табой.

Калі развеецца прад Богам
Зямлі апошні горкі дым,
Мяне сусветная трывога
Пакіне, можа, назусім.

## БОЖЫ ЗАНЯТАК

Маўклівы, задуменны клён.
Усё радзей над пожнямі вясёлкі.
Мабільнае жыццё з усіх акон
Запаланіла космас.
І не толькі.

Сышлі — хто мог — спадарыні кудысь.
Глядзіць дзядок цярпліва ля хаціны,
Як хтось
Аблокаў тэлефонны дыск
Над белым храмам
Круціць несупынна.



## У ГАСЦЯХ

Да вячэрняга ў сонцы дажджу
Каля ружаў і кмену
Я ў Купалы ў гасцях пасяджу
На прыступках каменных.

А за вокнамі — мілы працяг
І спаткання,
І лета.
Каб не выстудзіць хату хаця б
Да прыходу паэта.

## ЧАС

Ён жыве.
Ён вятрыскам ляціць.
І не згледзець яго,
Не пагладзіць.
Рве карэнняў вячыстую ніць,
Непагодзіць у любым паглядзе.

Выплывае з яго аднаго
Ранак снежны
І поўдзень зялёны.
І рака выцякае з яго,
І ў крыві нават нораў ягоны.

Навылёт, напрасткі ў вышыні…
Ён няспынны.
Суровыя бровы.
Толькі памяць яго запыніць
Мае злосці
І мае любові.



## КРЭЎНЫ ЛІЦВІН

Дождж астравецкі ажыў —
Памяці адгалоскі —
На нечуванай мяжы
Ў Княстве Вялікім Літоўскім.

Стоенай ростані боль
Не разумее і тая
Сумная яшчэ больш
З покуці Ганна святая.

Тут за любоў назаўжды,
Край свой элітны
Мальдзіс Адам малады
Шэпча па-польску малітву.

І з-пад дажджу, з-за суніц —
Погляд матулін.
Тут у сузор'і сталіц
Штосьці не надта прытульна.

Але і я не адзін:
Дзесьці жыве навальніца,
Віліі крэўны ліцвін
Мае на свет нарадзіцца.

## КНІГА

Самы пачатак былога стагоддзя.
Дзень абступаюць сівыя муры.
З пошумам хваль
Пры вясновай пагодзе
Янка Купала пра нас гаварыў.

Тут недзе роздум Нямігі закуты
Ў памяць бетонную.
Толькі ізноў
Мы на прыступках свайго Інбелкульта
Слухаем крокі
Мінулых гадоў.

Вецер знаёмы і вечна зялёны
Мемарыяльную хмарку прыб’е.
Верную кнігу
Трымаю ў далонях,
Ціха зайздрошчу сабе.



# Бераг цішыні

Паэма

*Ахвярам Агародзішчаў*

Тут людзі жылі на зямлі.
А потым іх лёсы,
Як шпалы,
Пад вузкакалейкай ляглі —
Прысыпалі
І прыкапалі.

Іх лес — іх заземлены лёс —
Ля рэчкі, што Нёману верыць.
Ды свет той пайшоў пад адкос,
Прыкладам як грымнулі ў дзверы.

Іх лес старажытны
Даўно
Павезла Еўропа старая.
А Ён, Чалавек, як відно,
Па свеце карэнне пускае.

✧ ✧ ✧

За дзень да пагібелі
Стогн
Быў чуцен у лютаўскім гуле.
Каб выжыў

Адзін хоць бы ён,
Жанчына дарогу пачула.

З-пад брэху сабак
І з-пад куль
Выносіла ў снежнае поле
Жыццё ў сабе
Аж адтуль,
Дзе месца няма яму болей.

Таму ж немаўляці хутчэй,
Насуперак снам і трывозе,
Хацелася ўжо да людзей,
Каб радасць, каб смех і каб слёзы.

На беразе Котры
Сярод
Снягоў і вяршалін трывалых,
Узгоркаў і топкіх балот
Нараніцы вёска ўмірала.

✧ ✧ ✧

Да шпалаў
Не дзеля красы
Валілі на росную плаху,
А потым цягнулі



Лясы
Наперад нагамі на Захад.

Устаўшы тады на дыбы
Пад хмарай-паненкаю тоўстай,
Жагналіся нават дубы
Вялікага Княства Літоўскага.

Пячэцца дзядоўскі мазоль
Ад цяжкай чужое сякеры.
Крынічкаю смагу спатоль,
Ёй бацька і мёртвы верыў.

Засыпаны,
Кроплі прасіў
У роднай расплюсканай хвалі.
Лясоў векавых галасы
З людзьмі заадно аціхалі.

✧ ✧ ✧

Сем дзён…
І ні смеху радні,
Ні блізкіх
Расквечаным маем —
Ні ён не пазнае

І ні
Яго аніхто не прызнае.

Вярнулася сонца з-за хмар
На котранскі бераг памалу.
Ён тут і жыхар, і святар
Той вёскі,
Якое не стала.

Паміж асакі і ажын,
Дзе сцежкі ў былое вадзілі,
Чым болей ён ведаў і жыў,
Тым болей хмурнеў на радзіме.



Сабраўшы ў адно
На пасля
Суквецці прызнанняў і лекі,
Планіда Венера ўзышла,
Прынесла расстанне навекі.
Хацелі яшчэ нарадзіць
Сястрычку, сястрычку і брата.
Стаіць над гарой маладзік,
Пануры́ўшыся вінавата.



Без голасу звала тады
Малеча ў дарогу, за мора
Жанчыну
Далей ад бяды,
А стала, што бліжай да гора.



Маліліся снам, і вярбе,
І небу, і кропельцы прэснай,
А верылі болей сабе
Бывалыя Ўсходнія Крэсы.

Хадзілі смялейшыя ўброд.
Зямля на сухоты хварэла —
Плыў пасляваенны смурод
З кустоў
Чалавечага цела.

Здавалася, далей абы,
Каб нават з зарой не страчаўся.
Казахскія стэпы, Сібір
Лячылі спагадлівым часам.

Ягонае дрэва расце
Да хмар сіратою пры леце,
Калі ён сумуе часцей,

Смяецца калі —
Не прыкмеціш.



І шэсцьдзесят пяты яму,
І столькі ж ягонаму гору.
У вочы глядзімся агню,
На мове нябёсаў гаворым.

Ні жаўранкаў тут угары,
Ні паху пчалінага воску.
Запаленай свечкай гарыць
На ветры
Ягоная вёска.

Сустрэча навек
І на міг
На здымку,
Што выстыў да рання.
Зямлі насцярожаны ўздых
І выдых,
Як стрэл на паляне.





Прыпомніцца,
Цяжка калі,
Калі пакідаць будуць сілы,
Ражок — на далоньку — зямлі,
Якога на вёску хапіла.

Ражок наталяла рака
Глытком
І світальнай палоскай…
Забіць,
Закапаць
І чакаць,
Пакуль не суцішыцца вёска.

Няма, не відацца мяжы,
Якой бы зямля стала рада.
Ёсць прага няволіць.
Ёсць — жыць.
І ёсць несуцешная праўда.

Сюды спавядацца прыходзь,
Бо сонца снягі засыпаюць.
Што думае вечны Гасподзь,
Як край наш прыходзіць на памяць?



Той вёскі імя,
Як адзін
Развеяны гук за вароты:
Хатынь,
На паўсвету Хатынь
У чорным уся
І гаротным.

Канчалася ноч.
А пасля
Не ведала, дзе і падзецца.
На вейках дрыжэла зямля,
Хапаліся ручкі за сэрца.

Там стаў перакінуты мост
На плечы былога стагоддзя.
Нібыта ўваскрэслы Хрыстос,
Ён* рэчку нанова пяройдзе.

---

* Ён — Васіль Сяргейчык, народжаны на сёмы дзень пасля спалення Агародзішчаў, адкуль напярэдадні трагедыі цяжарная маці пайшла да бабулі ў суседнюю вёску на роды.



## ЗМЕСТ

### Са мной мой дзень

## Босы бераг

## Быць каля Вас, каля цябе

### Світальнае

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Бялячыц** Рычард Станіслававіч

# Святлом і ценем

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *Ю. Голуб*
Вёрстка *Л. Вайчок*
Карэктар *В. Аскерка*

Падпісана да друку 15.04.2009.
Фармат 70х90 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Друк на рызографе. Гарнітура Korinna.
Ум. друк. 7,88 арк. Ул.-выд. 3,97 арк.
Наклад 220 ас. Зак. 277.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14.**

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў друкарні ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
Вул. Вызвалення, 9, 220004, Мінск.